# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабаронча бюлетэнь

№ 4 (63) Сакавік 2012 г.


## Маці Ўладзіслава Кавалёва паведамілі, што ейны сын расстраляны

На хатні адрас сям'і Кавалёвых у Віцебску прыйшоў ліст з паведамленьнем, што прысуд прыведзены ў выкананьне. Паведамленьне з паштовай скрыні дастала маці расстралянага Любоў Кавалёва *(на фота)*. «Вось толькі што мама са скрыні дастала. Вярхоўны суд... ад 16.03 ліст... што прысуд прыведзены ў выкананьне... Мама яго атрымала. Яны яго забілі, усё было марна, усё дарэмна», - толькі і змагла сказаць скрозь сьлёзы Тацьцяна, сястра Ўладзіслава Кавалёва.



Маці расстралянага Любоў Кавалёва ня ведае якіх-небудзь падрабязнасьцяў пра месца і час пахаваньня сына.

Адвакат Кавалёва якраз рыхтаваў наглядную скаргу. Камітэт па правох чалавека ААН накіраваў беларускаму ўраду і ў кампэтэнтныя воргани паведамленьне, што па справе Кавалёва ёсьць скаргі, і прасіў не прымяняць указ да іх разгляду.

Нагадаем, 14 сакавіка стала вядома пра тое, што прэзыдэнт Беларусі Аляксандар Лукашэнка прыняў рашэньне аб непамілаваньні Дзьмітрыя Канавалава і Ўладзіслава Кавалёва, асуджаных да сьмяротнай кары за зьдзяйсьненьне тэракту ў менскім мэтро 11 красавіка 2011 г.

Праваабаронцы і міжнародныя структуры, у тым ліку Эўразьвяз, парлямэнцкія асамблеі Рады Эўропы і АБСЭ заклікалі Лукашэнку перагледзець сваё рашэньне наконт адмовы ў памілаваньні Кавалёва і Канавалава. Усе яны адзначалі тое, што судовы працэс над Кавалёвым і Канавалавым пакінуў занадта шмат пытаньняў.

## У Віцебску працягваюць забараняць акцыі на Дзень Волі




Улады Віцебску забаранілі ладзіць пікеты 25 сакавіка. Заяўкі ў раённыя адміністрацыі на правядзеньне імпрэзаў на 94-ыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці БНР падаваў сябра КХП БНФ Пятро Сарапеня. Усяго сябрамі партыі меркавалася зладзіць тры пікеты - па адным у кожным з раёнаў гораду. Варта нагадаць, што гэта не адзіныя акцыі, прымеркаваныя да Дня Волі, забароненыя ўладамі Віцебску. Раней прадстаўнікі некалькіх палітычных групаў прасілі гарвыканкам дазволіць ім зладзіць у цэнтры гораду вулічнае шэсьце і сход, аднак чыноўнікі тое мерапрыемства таксама забаранілі.

Сваю забарону на правядзеньне пікетаў кіраўніцтва раённых адміністрацыяў Віцебску патлумачыла дзьвюма прычынамі. Па-першае, заяўнік не прыклаў да заявак на акцыі дамоваў на абслугоўваньне гэтых мерапрыемстваў службамі ЖКГ, міліцыі і "хуткай дапамогі". Патрабаваньне наяўнасьці такіх дамоваў зьмяшчаецца ў рашэньні гарвыканкаму № 881 ад 10 ліпеня 2009 году. Гэтае патрабаваньне не ўдалося выканаць яшчэ нікому, бо згаданыя службы зазвычай адмаўляюцца заключаць патрэбныя дамовы. Па-другое, заяўкі, як сьцьвярджаецца ў адказах Першамайскага і Кастрычніцкага раёнаў, былі пададзеныя пазьней за вызначаны заканадаўствам тэрмін. Гэтую прычыну Пятро Сарапеня лічыць надуманай і недарэчнай: ён зьвярнуўся па дазвол на правядзеньне пікетаў 10 сакавіка, г.зн. за 15 дзён да акцыі, што адпавядае артыкулу 5 закону "Аб масавых мерапрыемствах", які абвяшчае: "Заява падаецца ў пісьмовай форме не пазьней як за 15 дзён да меркаванай даты правядзеньня масавага мерапрыемства".

# Стан здароўя Сяргея Каваленкі пагоршаў



Стан палітычнага зьняволенага, сябра Кансэрватыўна-хрысьціянскай парты БНФ Сяргея Каваленкі надзвычай крытычны. 31 сакавіка лекар калёніі «Віцьба-3» паведаміў жонцы палітвязьня Алене Каваленцы, што стан Сяргея пагоршаў у параўнаньні з апошнімі днямі. Цяпер стан ягонага здароўя нестабільны.

*Алена Каваленка:* **«Адносна яго працягваюць учорашнюю схему лячэньня — парэнтэральнае кармленьне. Гэта калі праз катэтар уводзяць фізраствор, глюкозу, амінакіслоты, іншыя прэпараты, каб падтрымаць арганізм. Лекар кажа, што лячэньне ідзе нармальна, капаюць яму па 8–9 гадзінаў запар. Але сам Сяргей па-ранейшаму ад галадоўкі не адмовіўся. Кропельніцу яму ставяць, прывязаўшы да ложка, як і раней. Ціск у яго нізкі, і тэмпэратура... Вага такая ж – 45 кіляграмаў, не аднавілася. Ён скардзіўся лекару на млявасьць. Ён ляжыць. Запытала, чаму яны яго не шпіталізуюць, бо яму неабходная рэанімацыя. Сказалі, што калі будзе такая неабходнасьць, яны гэта зробяць. Аднак я вельмі сумняваюся, бо ў Сяргея даўно ёсьць паказьнікі, каб яго шпіталізаваць у рэанімацыю цывільнага шпіталю, але яны гэтага ня робяць. Я так разумею, проста загад зьверху не даюць на гэта. Вядома, вельмі перажываю за Сяргея, за ягоны стан, ці змогуць яны яго выцягнуць у такіх умовах, бо гэта ўмовы ня тыя, якія неабходны чалавеку ў такім стане».**

Сяргей Каваленка зараз утрымліваецца ў псыхіятрычным аддзяленьні рэспубліканскага турэмнага шпіталю пры калёніі «Віцьба—3». Як кажа яго жонка, у гэтай сытуацыі, калі Сяргея не пераводзяць у рэанімацыю цывільнага шпіталю, застаецца спадзявацца толькі на Бога.

Расейскі праваабаронца *Валянцін Гефтэр* таксама заявіў пра неабходнасьць неадкладнага ратаваньня Сяргея Каваленкі: **«Індывідуальная трагічная сытуацыя. Вельмі хацелася б, каб гэты чалавек ня проста выжыў, а захаваўся. Мне здаецца, у першую чаргу тут варта разглядаць гуманітарны складнік, а не высьвятляць прычыны, чаму ён патрапіў у СІЗА. Бо калі разглядаць толькі гэтае пытаньне, дык можна зайсьці ў тупік і ня вырашыць галоўнага. А галоўнае – каб гэты чалавек захаваўся як асоба»**.

## Сярод "навабранцаў" у чорным сьпісе Эўразьвязу - судзьдзя і пракурор зь Віцебску




У сьпісе грамадзян Беларусі, у адносінах да якіх 23 сакавіка былі ўведзеныя візавыя і фінансавыя санкцыі Эўразьвязу, ёсьць два прозьвішчы жыхароў Віцебску. Гэта пракурор Дзьмітры Лутаў і судзьдзя Алена Жук, адказныя за несправядлівы, на думку праваабаронцаў, прысуд, вынесены 24 лютага ў дачыненьні да сябра КХП БНФ Сяргея Каваленкі. Цяпер у чорным сьпісе знаходзяцца 243 чалавекі. Апроч таго, санкцыі ЭЗ дзейнічаюць супраць 32 прадпрыемстваў Беларусі.

Такім чынам, колькасьць віцяблян, якім Эўразьвяз забараняе ўезд на сваю тэрыторыю, павялічыўся да трох асоб. Раней у гэтым сьпісе зьявіўся віцебскі судзьдзя Ўладзіслаў Шыкароў, які неаднаразова прызнаваў вінаватымі ў парушэньні адміністрацыйнага кодэксу апазыцыйных актывістаў Сяргея Каваленку і Барыса Хамайду.

# Віктар Рамнёў аспрэчвае штраф і канфіскацыю ў яго накладаў газэты "Віцебскі кур'ер" і выданьня "Наш дом"




Віцебскі актывіст Віктар Рамнёў *(на фота)* зьвярнуўся ў абласны суд са скаргай на пастанову судзьдзі суду Віцебскага раёну Тацьцяны Ліпскай ад 23 лютага. Ён лічыць, што судзьдзя неправамерна наклала на яго адміністрацыйнае спагнаньне ў выглядзе штрафу ў памеры пяцідзесяці базавых велічынь (1 750 000 рублёў) з канфіскацыяй 10 000 асобнікаў зарэгістраванай у Смаленску газэты "Віцебскі кур'ер" і 24 000 асобнікаў выданьня "Наш дом". Сваёй пастановай, на думку Рамнёва, судзьдзя парушыла ягонае права на вольнае выказваньне свайго меркаваньня, якое ўключае ў сябе права на распаўсюд інфармацыі.

Інцыдэнт, у выніку якога была ўзбуджаная справа аб адміністрацыйным правапарушэньні, нібыта зьдзейсьненым Віктарам Рамнёвым, адбыўся 13 студзеня. У той дзень машына, якой ён кіраваў, была спыненая ля пасёлку Вароны, што ў 10 кілямэтрах ад Віцебску. Супрацоўнікі ДАІ падвергнулі аўтамабіль надгляду і, знайшоўшы ў салёне і багажніку друкаваную прадукцыю, вырашылі, што гэтая прадукцыя зьяўляецца забароненай для распаўсюду. Актывіста даставілі ў РАУС, склалі пратакол. Машыну адправілі на штраф-стаянку...

У сваёй скарзе на пастанову судзьдзі Ліпскай Віктар Рамнёў падкрэсьлівае, што згодна з Канстытуцыяй яго права на вольнае выказваньне свайго меркаваньня можа быць абмежаванае толькі ў выпадках, прадугледжаных законам: у інтарэсах нацыянальнай бясьпекі, грамадзкага ладу, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб. Ажыцьцяўленьне канстытуцыйных правоў і свабод асобы можа быць прыпыненае толькі ў выпадках надзвычайнага або ваеннага становішча. **"Суду не прад'яўлена доказаў таго, што ў Рэспубліцы Беларусь 13 студзеня 2012 году было абвешчанае надзвычайнае ці ваеннае становішча, а канфіскаваная газэта 'Віцебскі кур'ер' і выданьне 'Наш дом' хоць неяк замахваліся б на нацыянальную бясьпеку, на грамадзкі лад, на мараль насельніцтва, на правы і свабоды іншых асоб,"** - адзначыў Віктар Рамнёў у скарзе.

Апроч таго, пастанова суду Віцебскага раёну ставіць у віну актывісту распаўсюд друкаваных сродкаў масавай інфармацыі з парушэньнем вызначанага парадку. Аднак адказнасьці за такое дзеяньне Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэньнях не прадугледжана.

На думку Віктара Рамнёва, у судзе не было даказана, што выданьне "Наш дом" зьяўляецца пэрыядычным (г.зн. выдаецца часьцей за адзін раз на шэсьць месяцаў). Што ж тычыцца газэты "Віцебскі кур'ер" - дык яна афіцыйна зарэгістраваная ў Расеі; а згодна з пагадненьнем паміж урадамі Рэспублікі Беларусь і Расейскай Фэдэрацыі "Аб супрацоўніцтве ў галіне друку" кожная з краін - удзельнікаў пагадненьня не павінна перашкаджаць распаўсюду на тэрыторыі сваёй дзяржавы друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, зарэгістраваных і дзеючых на законных падставах у другой дзяржаве. Таксама суд не патлумачыў, кім або чым забаронена распаўсюджваць на тэрыторыі Мытнага Зьвязу (у Рэспубліцы Беларусь) прадукцыі адной з краін гэтага Зьвязу (Расейскай Фэдэрацыі).

Як мяркуе Віктар Рамнёў, суд, пакараўшы яго, няправільна патлумачыў артыкул 22.9 КаАП РБ "Парушэньне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі" - гэты артыкул не прадугледжвае адказнасьці для фізычных асоб, а распаўсюджваецца толькі на СМІ, заснаваныя ў рэспубліцы, а таксама на замежныя выданьні ў частцы, датычнай іх дзейнасьці на тэрыторыі Беларусі. Цягам судовага паседжаньня, сьцьвярджае Рамнёў, не было выяўлена фактаў яго датычнасьці да вырабу газэты "Віцебскі кур'ер" і выданьня "Наш дом", што зьяўляецца абавязковай прыкметай складу правапарушэньня, прадугледжанага згаданым артыкулам адміністрацыйнага кодэксу.

Ці прыслухаецца абласны суд да аргумэнтаў актывіста, і ці прызнае ён пастанову судзьдзі Ліпскай незаконнай і неабгрунтаванай - даведаемся ў найбліжэйшай будучыні.

# Ян Дзяржаўцаў судзіцца з раённымі адміністрацыямі Віцебску з-за забароны 15-ці пікетаў

З 23 па 28 сакавіка ў раённых судох Віцебску праходзіла першая сэрыя паседжаньняў па пазовах сябра КХП БНФ Яна Дзяржаўцава да раённых адміністрацыяў гораду. Актывіст абскардзіў забарону на правядзеньне пікетаў, вынесеную кіраўніцтвамі адміністрацыяў. 15 пікетаў - па пяць у кожным з раёнаў Віцебску - меркавалася ладзіць штодня, пачынаючы зь першага дня суду над Сяргеем Каваленкам.



Судовыя паседжаньні ў Чыгуначным і Кастрычніцкім раёнах прайшлі па аднолькавым сцэнары. Намесьнікі кіраўнікоў адміністрацыяў, якія прымалі рашэньні аб забароне пікетаў, на суд не зьявіліся, спаслаўшыся на занятасьць, замест іх прысутнічалі спэцыялісты-юрысты. Судзьдзі Сьвятлана Варатынская (суд Чыгуначнага раёну) і Алена Папкова (Кастрычніцкі раён) выслухалі пазоўніка і прадстаўнікоў адміністрацыяў, пасьля чаго абедзьве задаволілі хадайніцтвы Яна Дзяржаўцава аб запрашэньні да ўдзелу ў працэсах перакладчыкаў на беларускую мову і перанесьлі судовыя разгляды на 9 красавіка і 30 сакавіка адпаведна.

Перад тым абедзьве не задаволілі хадайніцтвы аб адводзе судзьдзяў, якія актывіст патлумачыў дзьвюма прычынамі: 1) судзьдзі не вядуць працэс па-беларуску; і 2) у прызначэньні гэтых судзьдзяў браў удзел Аляксандар Лукашэнка, які, паводле сьцьверджаньняў Яна Дзяржаўцава, пасьля рэфэрэндуму і разгону Вярхоўнага Савету ў 1996 годзе зьяўляецца нелегітымным прэзыдэнтам, а значыць нелегітымнымі ёсьць і ўсе яго прызначэнцы, дый уся судовая сыстэма краіны.

У судзе Першамайскага раёну таксама гучаў адвод судзьдзі, і таксама ён быў адхілены. Але ўсё астатняе адбывалася па-іншаму. Папершае, не было нікога з раённай адміністрацыі. Намесьнік кіраўніка А. Красакоў ня толькі сам праігнараваў суд, але і не паслаў у яго нікога замест сябе. Па-другое, судзьдзя Вольга Ільюшонак, відаць, улічыла досьвед сваіх калегаў: калі працэс распачаўся, і спадар Дзяржаўцаў заявіў, як і ў іншых судох, хадайніцтва аб перакладчыку, судзьдзя абвясціла, што перакладчыка яна ўжо загадзя запрасіла, ён прысутнічае ў залі і можа зараз жа ўзяцца за працу.

Хаця судовае паседжаньне ў Першамайскім райсудзе адбывалася без удзелу адказьніка, судзьдзя вырашыла, што гэта не зьяўляецца перашкодай для ўсебаковага і аб'ектыўнага судовага разбору, і ня стала адкладваць далейшы разгляд справы на іншы дзень. Менш як праз дзьве гадзіны пасьля пачатку суду яна абвясціла рашэньне: у пазове супраць кіраўніцтва адміністрацыі раёну наконт забароны пікету Яну Дзяржаўцаву адмовіць.



Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.